# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамска вул. 9 (Ostro-bramska 9). Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам для ведама Рэдакцыі. Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана кожнага нумару 200 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 2400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 400 мк., сярод тэксту 600 мк. і на апошняй страніцы 200 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт. |
|---|---|---|

Год II. Вільня, Субота 30-га сьнежня 1922 г. № 34 (59).

## Вінщуем з Новым Годам!

## Барацьба за беларускую школу.

Для Віленшчыны, Горадзеншчыны і часткі Меншчыны, якія апынуліся ў межах Польскае Рэспублікі, наступіла новая эра жыцьця з часу учасьця нашага ў выбарах у Польскі Сойм і Сэнат. Перанёсшая, здаецца, найбольш бяды і няшчасьцяў за часы сусьветнае і апошніх войнаў, зьнішчаная, абрабаваная, гэтая частка Беларусі нібы зьбіраецца ладзіць сваё эканамічнае, культурнае і палітычнае жыцьцё. Але трудна спадзявацца на тое, каб нашыя зусім слушныя жаданьні народныя маглі споўніцца нават не ў такім ужо хуткім часе у поўнай меры. Трэба вялікіх высілкаў, значнай напружанасьці народнае волі, трэба правесьці як належыць сталую і салідную арганізацыю на мясцох, каб у агульнай сыстэматычнай працы разам з нашымі прадстаўнікамі у польскіх законадаўчых органах прысьпешыць паляпшэньне жыцьця нашае беларускае вёскі.

Ува ўсёй гэтай працы самым балючым і неадкладным пытаньнем сяняшняга дня мы павінны лічыць вырашэньне належным спосабам справы аб сваёй роднай беларускай школе.

У гэтай сьвятой барацьбе павінны злучыцца усе ў адно, барацьба за беларускую школу павінна адначасна і самым салідным спосабам вясьціся на ўсіх фронтах—і ў гміннай радзе, і ў павятовага інспэктара, і ў Куратара, і ў Міністэрстве і ў Сойме. Цяпер-жа, адразу павінен распачацца бурны паход за адваяваньне права на праўнае істнаваньне нашае школы. Зразуменьне небясьпекі ад накіданай беларускаму народу сілай польскае школы дайшло ужо ўсіх, і ў той час, калі прадстаўнікі нашы ў Сойме пачынаюць там барацьбу за родную школу,—на мясцох трэба процістравіць сіле—сілу: школе польскай—беларускую школу. Калі не даюць нам школ беларускіх урадавых,—сяляне павінны напружыць сілы, стварыць самі сваю родную школу і утрымліваць яе да часу на свой кошт.

Цяжкавата гэта—ведама кожнаму: цяжка ўскласьці на сябе яшчэ і гэты абавязак у той час, як з нашага абрабаванага войнамі беларускага сялянства ўзята салідная даніна, зьбіраюцца ў дзяржаўны польскі скарб усе віды падаткаў і на зямлю што год і на жывёлу, што сабраны з нашага сяляніна падаткі нават за часы савецкае тут ўлады,—усё гэта так, але трэба ахвотна прыняць на сябе да часу гэту абавязак.

Ужо гэтага віду барацьба пачалася у Валожынскім павеце, дзе, ня гледзячы на усе перашкоды, вучыцелі і люднасьць адчыняюць прыватныя беларускія школы, але гэтая барацьба павінна абхапіць усе беларускія вёскі. Не зважаць на хітрыкі і перашкоды з боку паноў-інспэктароў, а зараз жа адчыняць свае прыватныя школы, рэгіструючы іх у школьнае ўлады, бо дзе зародзіцца цяпер прыватная, там даб'ёмся урадавых коштаў на утрыманьне беларускае школы.

Інспэктары школьныя, праводзячы на нашых беларускіх абшарах у прасьветнай справе польскую нацыялістычную палітыку, і ня мысьляць зусім лічыцца з прынцыпамі сусьветна вядомых пэдагогаў, што **пачатковае навучаньне павінна вясьціся у роднай мове дзіцяці**. Для гэтых паноў-інспэктароў і куратараў як-бы і на сьвеце не было гэткіх волатаў пэдагогічнае думкі як Руссо, Дыстэрвэг, Песталоцьці, Корф, Ушынскі, бо інспэктару польскаму не пэдагогіка важна, а „odpolszczenie odwieczno polskich kresów“. У гэткім чадзе сваіх заданьняў гэтыя новаз'яўленыя у нас пэдагогі-анархісты ня хочуць лічыцца нават з Канстытуцыяй Польскае Рэспублікі, з польскім законадаўствам, якое забясьпечвае беларускай люднасьці родную для яе школу.

Змаганьне з гэтым гвалчаньнем на мяйсцох школьнай ўладаю асноўных законаў Польскае Рэспублікі нашыя паслы ў Сойме лічаць пільнейшым сваім абавязкам, і праца іх там хутка дасьць свае скуткі, але люднасьць на мяйсцох павінна быць арганізована ў гэтай барацьбе, цьвёрда памятаючы, што перадавыя пазіцыі моцнымі будуць толькі тады, калі за імі стаяць моцныя і пэўныя рэзэрвы.

*Сымон Рак-Міхайлоўскі.*

# Паведамленьне.

„Забіты першы прэзыдэнт Рэчыпаспалітай Польскай, с. п. Габрыэль Нарутовіч, які быў выбраны галасамі польскае дэмакратыі і так званых нацыянальных меньшасьцяў.

Палітычнае гэтае забойства— ёсьць водгук незадаволеньня, зьверненага часткаю і да нас, беларусаў. Правыя польскія газэты напоўнены выдумкамі і паняверай нас, як асобае нацыі.

Гэтым мы заяўляем усяму арганізаванаму польскаму грамадзянству, што **на нашых землях мы спрадвеку складаем большасьць, а ня меншасьць**. Мы не дазволім лічыць сябе за грамадзян другога гатунку!

Зьвяртаемся да нашага народу захоўваць спакой на мясцох, ня ўмешавацца ў партыйную барацьбу польскага народу і згуртаваць свае сілы як адзін муж, памятаючы, што вашыя законныя выбраньнікі здалеюць стаць за абарону правоў і пашану свайго народу“.

**Беларускі Пасольскі Клюб.**

17. XII. 1922 г.
м. Варшава.

# АНКЕТА

## па пытаньню аб вайсковай каленізацыі.

1. Павет, воласьць.
2. Назва панскага двара, адданага асаднікам.
3. Да каго належаў гэты двор пад-час засяленьня яго асаднікамі, якой нацыянальнасьці і рэлігіі валадар двара?
4. Колькі дзесяцін (альбо гэктараў) зямлі у гэтым двары: а) аддадзена асаднікам; б) па колькі зямлі выпала кожнаму; в) пакінена старому валадару.
5. Асаднік — салдат ці афіцэр?
6. Ці не мае гэты асаднік зямлі альбо іншай маемасьці у другім месцы?
7. Асаднік, дастаўшы зямлю, сам жыве і працуе на ёй?
8. Распарцэляраная зямля была ў карыстаньні ці ляжала адлогам?
9. Ці знаходзіўся ў Польшчы валадар двара або яго давярыцелі да 1 красавіка (апрэля) 1921 году?
10. Ці ёсьць у Польшчы цяпер валадар двара?
11. На падставе чаго двор распарцэляваны?
12. Калі распарцэляваны двор (год, месяц і дзень).
13. Ці ня быў гэты рэспарцэляваны двор сканфіскаваны калі-небудзь расейскім урадам?
14. Каму двор належаў да канфіскаты?
15. Ці няма ў воласьці калёністаў, пасаджаных на землях: а) „казённых“; б) царкоўных; в) касьцельных; г) іншых.
16. З якіх месцаў Польшчы паходзяць асаднікі?
17. Што асаднікі дасталі ад улады апрача зямлі а) жывёлаю; б) насеньнем; в) гаспадарчымі прыладамі; г) лесам; д) грашыма?
18. Ці надзелены хто-небудзь з мясцовых сялян зямлёю з распарцэляваных двароў, або з „казённых“ і інш зямель?

Беларускі Соймавы Клюб.

# Чаму трэба дзяліць зямлю.

Ужо вядома ўсім, што на Беларусі большая частка зямлі належыць вялікім земляўласьнікам. Селяне-ж нашыя жывуць і працуюць на маленькіх кавалачках зямлі ў дзьве-тры дзесяціны. Вельмі часта спатыкаюцца сялянскія семьі, якія маюць дванаццаць, чатырнаццаць душ, а зямлі выпадае на такую сямью дзьве-тры дзесяціны, і тая параскідана па розных кутках. Як і чым можа жыць такая сялянская сямья?! Ці можа быць такое палажэньне і надалей? Вось тыя пытаньні, якія мусім мы разглядзець і адказаць на іх.

Пэўна ж, жыць так далей ня можна. Гэта ясна для кожнага. Нездарма-ж думка аб перадачы зямлі без выкупу народу, кінутая беларуск. партыяй сац.-рэвалюцыянэраў, і якую гэта партыя горача адстаівала, цяпер зрабілася агульнай думкай усяго беларускага грамадзянства, нават усіх партыяў і напрамкаў. Добрае насеньне ўпала на добры грунт.

Разглядзім жа якую карысьць прынясе гаспадарству перадача зямлі без выкупу працоўнаму селянству і чаму трэба сьпяшыць з гэтай перадачай.

Карысьць ад гэтага будзе: эканамічная, палітычная і культурная, і вось чаму.

Калі зямля пяройдзе ў рукі працоўнага селянства, дык кожны кавалачак яе будзе апрацован з тэй любоўю, з якой можа адносіцца да зямлі толькі сам селянін-гаспадар, а не памешчыцкі найміт-батрак. Дык пладавітасьць зямлі узмацнея. Гаспадарства будзе мець больш хлеба, чымсь было яно пры памешчыцкай абработцы.

Карыстным будзе для гаспадарства і тое, што большасьць насяленьня краю-селяне-падымуцца эканамічна, ўзбагацеюць. А вядома, што толькі тыя гаспадарствы моцныя, якія апіраюцца на большасьць, а не на меншасьць народу. Паны-памешчыкі увесь свой дабытак ад зямлі увозяць у Парыж і на курорты, дзе і заставалася багацьце нашага краю.

Селянін у Парыж не паедзе. Усё, што ён здабудзе ад зямлі, ён прамяняе на тавар ў сваім родным горадзе, альбо мястэчку. Гэтым спосабам дасьць ён заробак і беларускаму работніку і інтэлігенту.

Вось чаму павінны і беларускія работнікі і інтэлігенты ісьці адным шляхам з сялянствам і дамагацца перадачы зямлі бяз выкупа народу. Усе галодныя будуць накормлены, усе разутыя будуць абуты, бо працы хопіць усім і хлеба стане на ўсіх.

А мо запытаюцца, як жа гэта будзе «без выкупа»? гэта ж страты многа?

На гэта адкажам цяпер-жа, бо ведаем, што панскія прыхлебнікі будуць ставіць такія юдавы запытаньні.

Каму за вошта плаціць і якая карысьць гаспадарству будзе, калі селянін заплаціць за зямлю паразіту памешчыку?!

Памешчык не мае ніякага маральнага права на тую зямлю, якую палівалі селяне сваей працай мазалёвай. Гаспадарства эканамічна падымецца толькі тады, калі большасьць насяленьня узбагацея, а гэта зрабіцца можа толькі пры бязплатнай перадачы зямлі працоўнаму селянству, якое і з'яўляецца большасьцю. Памешчык, атрымаўшы грошы, раскідае іх на свае гульні за-граніцай, а народ і гаспадарства ад гэтага толькі абяднеюць.

Разам з эканамічным пад'ёмам усяго насяленьня падымецца і яго палітычнае значэньне. Бо забіты беднатой беларускі селянін мала і не ахвотна думаў аб сваіх палітычных правох. Для беларускага-ж народу пераход абшарніцкай зямлі ў рукі селянства адначасова і пераход улады ў рукі працоўных масаў. Памешчыкі, страціўшы зямлю, страцяць і сваё палітычна значэньне.

Для культурнага-ж разьвіцьця народу нашага бязплатны пераход зямлі у рукі селян мае такое вялізарнае значэньне, што аб гэтым і гаварыць многа ня прыходзіцца. Ясна, што калі народ узбагацея, атрымаўшы зямельку у свае ўласныя рукі, калі разам з тым здабудзе сабе усе належныя яму палітычныя правы,— тады з пагардай адсуне ён ад сябе палёнізацыю, як пятлю, зацянутую на шыі жывога народу. Сам, рукамі сваёй уласнай інтэлігенцыі пачне беларус будаваць сваю беларускую школу, сваю родную культуру. Пачне падымацца усё вышэй і вышэй да агульна-чалавечых інтарэсаў.

Дык вось чаму нам трэба дзяліць зямлю бяз выкупу і безадкладна.

**С. Р.**

# Сьпешнае запытаньне

дэпутатаў Беларускага Соймавага Клюбу ў справе надужыццяў з боку адміністрацыі ў часе выбараў у Сойм і Сэнат.

4 лістапада 1922 г. у Дунілавіцкім павеце на падставе распараджэньня

